І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну Студзень 2012

Інфармацыйна-забаўляльны бюлэтень











стар. 4

## ГУМНО – ЧЭМПІЁН!!!

## Жыхар Светлагорска ўзлез на галоўную яліну і сцвярджаў, што ён Дзед Мароз

стар. 3

## Лічыць ад 1870 года

стар. 2

*А таксама ў нумары рубрыка:*

**КЛАСІКА ЖАНРУ M&S Media**

# Лічыць ад 1870 года

***Нацбанк прыняў рашэнне аб змяненні пачатковай даты ў гісторыі банкаўскай сістэмы Беларусі.***

Дагэтуль датай стварэння банкаўскай сістэмы ў Беларусі было прынята лічыць 3 студзеня 1922 года — дату пачатку працы ў Мінску Беларускай канторы Дзяржбанка пры Наркамаце фінансаў Беларускай ССР.

«Аднак праведзеныя даследаванні архіўных матэрыялаў, вывучэнне калекцый фінансавых дакументаў і каштоўных папер дазволілі атрымаць неабвержныя дакументальныя сведчанні таго, што першая банкаўская ўстанова на тэрыторыі сучаснай Беларусі з'явілася як мінімум на паўстагоддзя раней,

а менавіта: 8 студзеня 1870 года, калі быў падпісаны Указ Сената Расійскай Імперыі аб заснаванні ў Гомелі гарадскога грамадскага банка.

З гэтага часу і бярэ свой пачатак гісторыя станаўлення і развіцця банкаўскай сістэмы Беларусі», — паведамілі ва ўпраўленні інфармацыі Нацбанка.

Там патлумачылі, што пасля адмены ў Расіі прыгоннага права дзелавая актыўнасць у Гомелі прыкметна павялічылася, праз год пачалося будаўніцтва Лібава-Роменскай чыгункі, якая злучыла Украіну з Прыбалтыкай, а таксама Палескай чыгункі, што злучыла ўсю паўднёвую частку сучаснай Беларусі, Польшчу, Украіну. Усё гэта прывяло да вельмі хуткага прытоку насельніцтва. Для вырашэння надзённых пытанняў гарадскога жыцця неабходна была паўнацэнная фінансавая ўстанова.

Магчыма, менавіта таму 8 студзеня 1870 года быў падпісаны Сенацкі Указ аб заснаванні ў Гомелі гарадскога грамадскага банка. Яго асноўны капітал пры заснаванні быў вызначаны ў 20 тысяч рублёў. У музейным фондзе Нацыянальнага банка захоўваецца чэк гэтага банка — неаспрэчны «рэчавы доказ» існавання банка.

Як і многія іншыя гарадскія банкі,

гэта першая ў Беларусі прыватная камерцыйная грашова-крэдытная ўстанова выдавала доўгатэрміновыя пазыкі пад заклад гарадскіх і будаўнічых участкаў.

Капітал гэтых банкаў ствараўся са сродкаў гарадскога бюджэту, а крэдытаваліся ў асноўным сярэднія і дробныя прадпрымальнікі. Крэдыты даваліся таксама гарадской управе, мясцоваму земству, а прыбытак ад аперацый адлічваўся на патрэбы гарадскога добраўпарадкавання і дабрачынныя мэты. Затым свае гарадскія банкі, апрача Гомеля, з'явіліся ў Полацку, Віцебску, Барысаве, Магілеве, Ігумене.

Як падкрэсліваюць у Нацбанку, больш ранняй даты стварэння банкаў на тэрыторыі Беларусі не ўстаноўлена. Такім чынам, пачатковай датай у гісторыі банкаўскай сістэмы Беларусі варта лічыць дату стварэння Гомельскага гарадскога грамадскага банка — 8 студзеня 1870 года.

У галоўным банку краіны таксама растлумачылі, што замена даты не запатрабуе ўнясення змяненняў ва ўказ прэзідэнта ад 26 сакавіка 1998 года № 157 «Аб дзяржаўных святах, святочных днях і памятны датах у Рэспубліцы Беларусь», таму што прафесійнае свята банкаўскіх і фінансавых работнікаў адназначаецца ў першую нядзелю студзеня.

***БелаПАН***

Мужык уладкоўваецца на пасаду памочніка міністра эканомікі Беларусі. Інтэрв'юер цікавіцца:

— А вось вы ў анкеце напісалі, што вы маеце фізічныя недахопкі. Якія, калі не сакрэт?

— Панімаеце, мне ў арміі адарвало яйцы.

— Вельмі шкада чуць гэта, але гэта не праблема. У цэлым, вы нам падыходзіце. Вы прыняты на працу. Працоўны дзень у нас як звычайна — з 9:00 да 17:00. Можаце пачынать заўтра — чакаю Вас а 13:00.

— Прабачце, я не зразумеў: калі працоўны дзень пачынаецца ў 9 гадзін, чаму я павінен прыходзіць а 13:00?

— Паважаны, гэта ж міністэрства эканомікі Беларусі! Першыя чатыры гадзіны ніхто не працуе, шатаюцца без справы, чэшуць яйцы. Хочаце, прыходзьце а 9:00, але вам не будзе чаго рабіць.

# Жыхар Светлагорска ўзлез на галоўную яліну і сцвярджаў, што ён Дзед Мароз

***Яліна 20 метраў увышкі.***

1 студзеня прыкладна ў 17.00 у Светлагорскі РАУС паступіў званок аб тым, што на верхавіне галоўнай ёлкі на цэнтральнай плошчы райцэнтра сядзіць чалавек.

Як паведамілі ў прэсслужбе УУС Гомельскага аблвыканкама, міліцыянеры, якія прыбылі на месца здарэння, убачылі невядомага, які сядзеў на верхавіне ёлкі вышынёй каля 20 метраў і крычаў, што ён Дзед Мароз. Хулігану прапанавалі спусціцца, але ён адмовіўся і працягваў крычаць.

У выніку да ёлкі былі выкліканыя ратавальнікі, і калі супрацоўнікі МНС пачалі ўстанаўліваць лесвіцу, каб дастаць правапарушальніка, той самастойна спусціўся з ёлкі. У дачыненні да маладога чалавека быў складзены пратакол за дробнае хуліганства, сёння, 2 студзеня, ён паўстане перад судом.

У міліцыі затрыманы растлумачыў свой учынак тым, што хацеў «паказаць сябе» перад землякамі, якія гулялі на плошчы, і быў п’яны на той момант.

***БелаПАН***

— А давайце піць гарбату, — сказалі гаспадары.
— А давайце піць, што пілі! — абурыліся госці.

У Светлагорску ёсьць такая традыцыя - у ноч з 31 сьнежня на 1 студзеня людзі віншуюць адзін аднаго з прыходам...



# Жыхарка Мазыра адбілася ад рабаўніка і адабрала ў яго нож

***У Калінкавічах злачынец раніцай 25 снежня паспрабаваў здзейсніць разбойны напад на жанчыну, але атрымаў адпор і рэціраваўся.***

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама, каля 6.30 25 снежня 52-гадовая жыхарка Мазыра прыехала на працу ў Калінкавічы. На вуліцы раптам на яе напаў злачынец, які схапіў яе ззаду за шыю і пачаў душыць. Жанчына падумала, што ён напаў з мэтай рабавання, і адкінула сваю сумачку ў надзеі, што злачынец забярэ яе і пакіне пацярпелую ў спакоі. Але невядомы працягваў душыць жанчыну і дастаў нож. У нейкі момант пацярпелая змагла выхапіць нож, і нападнік уцёк. Жанчына звярнулася ў міліцыю. Было цёмна, і прыкметы злачынцы яна не запомніла.

У гэты ж дзень, прыкладна праз гадзіну пасля разбойнага нападу, невядомы адабраў сумачку, у якой было 40 тыс. рублёў, у жыхаркі Калінкавічаў, а яшчэ праз паўгадзіны, прыкладна ў 08.05, рабаванню падверглася яшчэ адна жанчына. Пад пагрозай гвалту злачынец забраў у яе 400 тыс. рублёў.

Аператыўнікі пачалі пошукі падазраванага, і з дапамогай службовага сабакі ён быў затрыманы. Ім аказаўся раней судзімы жыхар райцэнтра 1988 года нараджэння. Ён пакуль адмаўляе сваё дачыненне да нападу на жанчын, вядуцца следчыя дзеянні. Існуе верагоднасць, што менавіта гэты чалавек напаў на жыхарку Мазыра. Прынамсі, у затрыманага парэзаная рука, траўму ён мог атрымаць, калі жыхарка Мазыра забірала ў яго нож.

***Алена Германовіч, БелаПАН***

На споведзі ў царкве:
— Бацюшка, мяне так муж пабіў, ледзь да вас прыйшла! Так пабіў!
— Каким образом он вас бил?
— Каб жа абразом, палкай біў!

# Першы Калядны турнір па футболе Кубак “Справаводства па-беларуску!”-2011

***24 снежня адбыўся Першы Калядны турнір па футболе Кубак “Справаводства па-беларуску!”-2011. У турніры ўдзельнічала 4 каманды, прадстаўляючыя розныя грамадзянскія ініцыятывы Гомеля. Сярод удзельнікаў была каманда грамадзянскай кампаніі “Справаводства па-беларуску!” ФК “СпБ-09”, каманда кампаніі “Гавары Праўду!” (Гомель) ФК “ГП-Гомель”, каманда малатыражнай газеты “Гомельскія Навінкі” ФК “ГумНо” і каманда сайта pytalnik.tk ФК “ПТК”.***




***арганізацыя турніру***

Перамогу ў турніры і Кубак “Справаводства па-беларуску!”-2011 здабыў ФК “ГумНо”. ФК “СпБ-09” заняў другое месца, трэцім быў ФК “ГП-Гомель”.

“Гэта быў цікавы турнір, вельмі напружаны. Пераможца Кубка СпБ-2011 вызначыўся ў супрацьстаянні ФК “ГумНо” і ФК “СпБ-09”. Напачатку гульня была роўнай, але ў другім тайме з-за траўмы выбыў наш лепшы гулец і ў выніку мы ўступілі з лікам 10:2. Але ФК “ГумНо” заслугоўваў перамогу – у ім былі гульцы вельмі высокага класа. Віншую іх з заслужанай перамогай.” – адзначыў галоўны трэнер ФК “СпБ-09” Яўген Мароз.

Лік у іншых гульнях турніра быў наступным: “ГП-Гомель” – “ПТК” 10:2, “ГП-Гомель” – “ГумНо” 4:9, “ПТК” – “СпБ-09” 6:12, “ГумНо” – “ПТК” 8:4. Тэхнічную перамогу атрымаў “СпБ-09” у гульні з “ГП-Гомель”.

Больш за ўсё галоў забіў ФК “ГумНо” – у сярэднім 9 мячоў за гульню, ён жа меньш за ўсіх і прапусьціў – у сярэднім 3,3 мячы за гульню. У сярэднім за адну гульню турніра забівалася 13,4 галоў. Прыз “За Самааданасць” атрымала каманда “ПТК”, што заняла апошняе месца, але паказала вельмі добрую гульню.



***Капітан ФК “СпБ-09***

“Кубак “Справаводства па-беларуску!” быў праведзены з мэтай прыцягнуць увагу да

беларускай мовы, а таксама наладзіць камунікацыю і сяброўскія стасункі з іншымі гомельскімі грамадзянскімі ініцыятывамі. І без перабольшвання, хочу адзначыць, што гэты мэты былі дасягнуты.

У мяне столькі добрых эмоцый ад гэтага турніра, спадзяюся, яны такія ж і ў іншых удзельнікаў. І галоўнае, гэтым Кубкам мы паказалі, што беларуская мова гэта не толькі мова перэферыі, гэта не толькі сумныя размовы не беларускамоўных вечарынах, гаротныя перажыванні і рэфлексіі на тэму аб тым аб тым, як з беларускай мовай усё дрэнна, што ўжо надакучыла ўсім, а беларуская мова – гэта перамога, барацьба, жывыя эмоцыі і гэта цікава не толькі адмыслоўцам, але і простым беларусам.



***ФК “ГумНо”***

Нажаль, Гомельская абласная і гарадская арганізацыі ТБМ , з якімі ў “Справаводства па-беларуску!” маюцца разыходжанні ў тым, як зрабіць беларускую мову дамінуючай ў Беларусі, афіцыйна адмовіліся ад удзелу ў Кубку. Прыкра, што людзі пазбягаюць магчымасці перамагчы ў сумленнай і адкрытай барацьбе. Хоць, магчыма, гомельскім ТБМ больш па душы хакей, бо гэта зараз дзяржаўны спорт.” – адзначыў галоўны мэнэджэр ФК “СпБ-09”, каардынатар кампаніі “Справаводства па-беларуску!” Ігар Случак



Спаборніцтва паміж ЗША, Вялікабрытаніяй і Беларусьсю, хто хутчэй труса схопіць.

Пусьцілі труса, той пабег... Рванулі за ім амэрыканскія марпехі, праз гадзіну прынесьлі за вушы.

Другім быў ангельскі спэцназ, схапілі за 40 хвілінаў.

Прыйшла чарга беларусаў. Прыйшлі два амапаўцы. Судзьдзі зьдзівіліся, маўляў вы ўдвух не справіцеся... Тыя ў адзін голас: "фігня"!

Празь сем хвілін выводзяць мядзьведзя ў кайданках. Мядзведзь:

– Я трусік, дзе расьпісвацца?



# Першы Калядны турнір па футболе Кубак “Справаводства па-беларуску!”-2011

## Працяг. Пачатак на стар. 4

Плануецца, што Кубак “Справаводства па-беларуску!” стане штогадовым, а склад яго ўдзельнікаў яшчэ больш пашырыцца. Ужо зараз паступілі дзве заяўкі ад патэнцыйных ўдзельнікаў, што прадстаўляюць даволі вядомыя і прызнаныя аб’яднанні.

*Відэа з Кубка*

http://www.youtube.com/watch?v=aEcIukJmoG4&list=UUx9gGwNaeqciycxtSN844Ag&index=2&feature=plcp

http://www.youtube.com/watch?v=RzVKz8ciqdM&list=UUx9gGwNaeqciycxtSN844Ag&index=1&feature=plcp

*Фота*

http://www.facebook.com/profile.php?id=1552818909#!/media/set/?set=a.2854091322058.144920.1552818909&type=1

***http://vk.com/#/album5812517_149143765***




***чэмпіёны***






# За хабар затрыманы гендырэктар ААТ «Мазырсоль»

***57-ы гадовы кіраўнік прадпрыемства быў затрыманы ў сваім працоўным кабінеце з доказамі злачынства.***

Пры атрыманні хабару супрацоўнікамі ўпраўлення КДБ па Гомельскай вобласці затрыманы генеральны дырэктар ААТ «Мазырсоль».

Як паведамілі ў прэс-групе УКДБ па Гомельскай вобласці, 57-ы гадовы кіраўнік прадпрыемства быў затрыманы ў сваім працоўным кабінеце з доказамі злачынства ў момант атрымання незаконнага грашовага ўзнагароджання.

Яму прад'яўлена абвінавачванне ў атрыманні хабару ў асабліва буйным памеры за спрыяльнае рашэнне пытанняў, якія ўваходзяць у яго кампетэнцыю.

У дачыненні да затрыманага Камітэтам дзяржбяспекі заведзена крымінальная справа па ч. 3 арт. 430 Крымінальнага кодэкса (атрыманне хабару). Санкцыяй дадзенага артыкула прадугледжана пакаранне да 15 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

Затрыманы змешчаны ў СІЗА КДБ. Вядзецца следства.

***БелаПАН***

Адзін жыд вельмі любіў глядзець порнастужкі наадварот з канца ў пачатак, бо пасля ўсяго прастытутка яшчэ і аддавала грошы.

# Мала кашы з'елі

У Жлобіне невядомыя выкралі сейф з грашамі, але не змаглі яго данесці і кінулі па дарозе.

Аб выкраданні сейфа паведаміў у міліцыю дырэктар ТАА «Камбуз», што стала падставай для распачынання крымінальнай справы на падставе артыкула 205 КК (крадзеж). Кіраўнік паведаміў, што 30 снежня невядомыя шляхам свабоднага доступу з бара «Лінкор» па Першым заводскім завулку, 12, выкралі сейф, у якім знаходзіліся 4,5 млн. рублёў.

Як паведамілі ў прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама, сейф з грашовымі сродкамі быў потым знойдзены каля дома № 5 у гэтым жа завулку. Вядзецца следства.

У гэты ж дзень у Жлобіне быў затрыманы мясцовы жыхар 1986 года нараджэння, які з гандлёвай залы магазіна адкрыта выкраў дзве скрыні цукерак і паспрабаваў уцячы, але быў затрыманы.

***БелаПАН***




...Мы зразумелі, што наш сын — наркаман, калі з дому сталі знікаць наркотыкі...

# Збываў «праслухоўку»

***Супрацоўнікі КДБ затрымалі ў Гомелі дырэктара аднаго з прыватных прадпрыемстваў 1974 года нараджэння.***

Супраць яго ўпраўленнем КДБ па Гомельскай вобласці распачата крымінальная справа на падставе ч. 2 арт. 376 КК (незаконныя выраб, набыццё або збыт сродкаў для публічнага атрымання інфармацыі).

Як паведамілі ў прэс-групе УКДБ, падазроны выкарыстоўваў службовыя паўнамоцтвы і незаконна набыў у мэтах збыту, а затым прадаў спецыяльныя тэхнічныя сродкі, прызначаныя для тайнага атрымання інфармацыі. Электронныя прыстасаванні з функцыямі фота-, відэа- і аўдыёзапісу, закамуфляваныя пад аўтаручкі, дырэктар фірмы набыў праз інтэрнэт. Цану адной такой ручкі бізнесмен устанавіў прыкладна ў 500 тысяч рублёў. Паставіць крымінальны бізнес «на паток» яму перашкодзілі супрацоўнікі КДБ.

Частка 2 артыкула 376 КК прадугледжвае пакаранне ў выглядзе абмежавання волі на тэрмін да чатырох гадоў або пазбаўленне волі на той жа тэрмін. Праводзіцца следства.

**Алена Германовіч, БелаПАН.**



Госці ў вяселле весялелі ,
Крычалі горка! пі да дна,
І толькі наш змагар Генадзя
Трымаў плакат "Далоў рэжым!"

## КЛАСІКА ЖАНРУ M&S Media

***Саша ЧЭЛ***

***Не ўсе матэрыялы нам падабаюцца, але ўсе мы друкуем. Таму, вось, крытычны погляд гамяльчаніна, які назваў сябе "Ваш адзіны чытач" і даслаў свае заўвагі і каментары нам на скрыню.***

*"Па-першае, што гэта за назва "Гомельскія навінкі"?! Філіял мінскіх? Але гэта не неактуальна ў гэтым горадзе!*

*Інфармацыйна-забаўляльны бюлетэнь! За два нумары нават анекдот надрукавалі!!! Малайцы, так трымаць!*

*Дарэчы, я вельмі рады за дэмаграфічны стан нашай вобласці, у якой паводле вашага артыкула жыве амаль 1,5 міліярда чалавек, толькі смяротнасць ушчэнт разбівае прырост. На 11.900 немаўлят прыйшлося 15,9 млн. памерлых. Можа ў нас масавы голад?"*




Вось такія каментары. На мой погляд, ацтой, але крытычны.

Галоўнае, чалавек выказвае думкі і ініцыятыву. Гэта добра.

Далучайцесь, прысылайце свае лісты на нашу электронную паштовую скрыню **gnavinki@gmail.com**, і Ваш каментар абавязкова будзе надрукаваны ў "ГН".

А таксама нашы сацыяльныя сеткі:

*http://vk.com/gumno2007*

*http://www.facebook.com/profile.php?id=100003262396346*



Ці магу я на сэкунду прыцягнуць вашу ўвагу?



Дзякуй.

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльны бюлэтэнь
"Гомельскія Навінкі студзень 2012"
Заснавальнік: Мар'я Смолава
Галоўны рэдактар: Гуан Карлас
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў
246050, г. Гомель, вул. Пуліхава, 17,
рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2012"
http://www.facebook.com/profile.php?id=100003262396346

http://vk.com/gumno2007
e-mail: GNavinki@gmail.com
Надрукавана на
Папяровай фабрыцы
"ГумНо",
г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 14.
Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца
безкаштоўна.

